СВАБОДА

18 жніўня 1995 г.

№33

Кошт свабодны



# Лукашэнка хоча павярнуць назад кола гісторыі

Навіна аб выключэньні з сістэмы адукацыі падручнікаў і дапаможнікаў узору 1992—1995 гг. падобная да выбуху нэйтроннай бомбы — будынкі стаяць, у тым ліку школы і ВНУ, а ў іх усе быццам паваленыя. Ва ўсялякім разе так успрыняла прэзідэнцкае распараджэньне большасьць настаўнікаў, выкладчыкаў, навукоўцаў і спэцыялістаў, якія працуюць на адукацыйнай ніве. Што значыць вярнуцца да падручнікаў камуністычных часоў? Гэта ўсё адно што павярнуць назад кола гісторыі!

Але ці ўпершыню бяруцца бальшавікі за марную справу?

Паглядзім уважліва на тэкст паведамленьня галоўнай управы грамадзка-палітычнай інфармацыі: "Гэтае рашэньне прэзідэнт прыняў пасьля глыбокага вывучэньня матар'ялаў камісіі, якая на працягу 2-х месяцаў экспэртавала зьмест падручнікаў, уведзеных у школьныя праграмы пасьля 1992 г. Камісія прызнала, што зьмест гэтых падручнікаў носіць тэндэнцыйны, палітызаваны характар і па сваім узроўні не адпавядае патрабаваньням сучаснай адукацыі".

Якія тут узьнікаюць пытаньні? Па-першае, што гэта была за камісія, хто ўваходзіў у яе склад? Па-другое, паводле якіх крытэрыяў яна выносіла прысуд падручнікам першых гадоў незалежнасьці? І трэцяе, да чаго гэта прывядзе?

Дакладны адказ на першае пытаньне пакуль даць немагчыма, бо ўправа сп.Замяталіна ўпарта не называе прозьвішчы членаў камісіі. Адзінае, якое прагучала (апроч, зразумела, Замяталіна) — гэта прозьвішча вядомага камуністычнага ідэолага Івана Антановіча. Сам жа Уладзімер Замяталін назваць імёны членаў камісіі адмовіўся, абмежаваўшыся адказам, што гэта "акадэмікі і другія заслужаныя людзі". На маю паўторную просьбу палкоўнік заявіў: "Думаю, что для вашего очередного пасквиля этой информации достаточно".



Але цікава, што нават намесьнік міністра адукацыі і навукі Т.Галко ў сваім камэнтары БелІнфарму адзначыла, што ў міністэрстве нічога ня ведалі пра экспэртную праверку. Нічога ня ведалі аб дзейнасьці камісіі і ў "штабе" віцэ-прэм'ера У.Русакевіча, які курыруе адукацыю. Атрымоўваецца, што У.Замяталін проста заклікаў на дапамогу, як у былыя кебічаўскія часы, тав.Антановіча і кампанію, і гэтыя "ідэолагі" вырашылі, што ня варта ведаць нашым дзецям.

Пра крытэрыі экспэртызы таксама можна здагадвацца толькі па ўскосных рысах. Паколькі кропкай адліку называюць менавіта 1991 г., відавочна, што гаворка ня йдзе пра прафэсійны ўзровень. Усё, што скасоўваецца, зьявілася ў часы незалежнасьці і ў гэтым бачыцца галоўны крытэрый. Хаця той жа сп.Замяталін сьцьвярджае, што крытэрый быў — "сущая правда". Напрыклад, носьбітам "сущей правды" не падалося за праўду сьцьвярджэньне, што Другую сусьветную вайну развязалі Гітлер і Сталін. Відаць, з асаблівай увагай сачылі "акадэмікі" за праўдай у гістарычных падручніках. Па дадзеных БелІнфарму, 20 з 50-ці непажаданых кніжак — менавіта па гісторыі.

Што ж датычыць наступстваў, то яны будуць проста катастрафічныя. Па-сутнасьці, гаворка ідзе пра адмову ад сістэмы адукацыі, набліжанай да сусьветных стандартаў. У апошнія гады ўведзена шмат курсаў, якіх у нас проста не было. Напрыклад, культуралогія, сацыялогія, рэлігіязнаўства, сацыяльная псіхалогія і інш. Былі пазбаўленыя ранейшай ідэалагізаванасьці курсы па літаратуры, іншых гуманітарных прадметах. Паводле словаў сп.Галко, вяртаньне да былых падручнікаў па большасьці новых дысцыплінаў проста немагчымае. Вяртаньне да падручнікаў па гуманітарных дысцыплінах, якія існавалі раней, будзе азначаць адкат сістэмы вышэйшай адукацыі да былога сьветапогляду.

Камэнтуючы па нашай просьбе распараджэньне прэзідэнта, вядомы палітык і выкладчык Анатоль Сідарэвіч зьвярнуў увагу на наступнае: прэзідэнт, па-сутнасьці, ня толькі разбурае нацыянальную сістэму адукацыі, але і адзіную адукацыйную прастору ў межах СНД, пра якую ён столькі разоў абяцаў клапаціцца. З карыстаньня фактычна выштурхоўваюцца і кнігі, выдадзеныя ў апошнія часы ў Расеі. Непажаданымі аказваюцца такія пісьменьнікі як Булгакаў, Цьвятаева, Бунін і іншыя сусьветнавядомыя літаратары, творы якіх уключаныя ў хрэстаматыі, што выйшлі ў апошнія гады на Беларусі. Як упэўнены А.Сідарэвіч, прэзідэнт і ягоныя памочнікі зноў дэманструюць ня толькі свае палітычныя прыхільнасьці, але і поўнае няведаньне становішча ў сістэме адукацыі. Яны паказалі гэта, калі абвесьцілі тэмы сачыненьняў па творах, якіх ужо няма ў абавязковай праграме, напрыклад, "Як гартавалася сталь". Апошні крок яшчэ больш яскрава даказвае, што наводзіць парадак у сістэме адукацыі ўзяліся некампэтэнтныя і малакультурныя людзі. Сапраўды, толькі з такім "багажом" ведаў можна паспрабаваць павярнуць кола гісторыі назад.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**



Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Германчук
Заснавальнік Павал Жук
Выдавец „Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93 000

Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул. Іванаўская, 56
Тэл./факс 36-24-41

## Сёмае неба каштуе 7 мільёнаў даляраў

**Пэрсанальны самалёт ТУ-154 М, пабудаваны для прэзідэнта А.Лукашэнкі на Самарскім авіяцыйным заводзе, каштуе каля 7 мільёнаў даляраў. Гэтую лічбу карэспандэнту СВАБОДЫ паведаміў адзін з супрацоўнікаў кампаніі "Белавія".**

Прэзідэнцкі самалёт быў прыгнаны ў Беларусь 26 ліпеня і на працягу некалькіх дзён знаходзіўся ў аэрапорце "Менск-2". Чыноўнікі адміністрацыі Лукашэнкі ўважліва агледзелі "борт №1" і засталіся задаволеныя камфартабельнасьцю салона, дзе ёсьць і працоўны кабінэт, і пакой для адпачынку, і шмат іншых даброт. Лайнэр пафарбаваны ў белы колер, па баках ён аздоблены чырвона-зялёнымі палосамі, а хвост упрыгожаны лукашэнкаўскім гербам. У адрозьненьне ад звычайных ТУ-154, прэзідэнцкі самалёт можа праляцець без пасадкі 6 тыс.км. Акрамя таго, на борце ўстаноўленая супэрсучасная сувязь, якая гарантуе, што тэлефонныя размовы "бацькі" ня здолее падслухаць нават ЦРУ.

Цяпер самалёт праходзіць двухмесячныя выпрабаваньні ў розных кліматычных умовах Расеі, пасьля чага будзе перададзены заказчыку.

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

На здымку: самалёт ТУ-154М.



## У Менску рыхтуюцца сьвяткаваць угодкі Аршанскай бітвы

**Ініцыятыўная група грамадзянаў падала заяву ў Менскі гарвыканкам аб правядзеньні ў сталіцы 8 верасьня 1995 г. сьвяточнага шэсьця (у 18.00 ад пл.Незалежнасьці) і музычна-паэтычнага фэсту (з 19.00 на пляцы перад Опэрным тэатрам), прысьвечаных Дню Беларускай Вайсковай Славы.**

У паведамленьні для прэсы ініцыятары зьвяртаюцца да ўсіх патрыётаў Беларусі, да ўсіх палітычных партыяў і грамадзкіх арганізацыяў Рэспублікі Беларусь з прапановай аб каардынацыі дзейнасьці па сьвяткаваньні Дня Беларускай Вайсковай Славы.

*Тэл. для кантактаў 33-50-12* **М.Г.**

## Ствараецца рух у падтрымку нацыянальнай сімволікі

**У Віцебску ствараецца грамадзкі рух у падтрымку герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сьцяга.**

Першая мэта, якую ставяць ініцыятары новага руху: дабіцца ад уладаў выдачы пашпартоў з выявай герба "Пагоня". На першым паседжаньні аргкамітэту адзін з заснавальнікаў руху — супрацоўнік Віцебскага пэдагагічнага інстытуту Іван Марозаў — выказаў надзею, што тыя віцьбічы, якія падчас рэфэрэндуму 14 траўня галасавалі ў падтрымку гістарычнага беларускага герба "Пагоня" і бел-чырвона-белага сьцяга, у бліжэйшыя дні зьвернуцца ў мясцовыя пашпартныя сталы з патрабаваньнем выдаць ім пашпарты з "Пагоняй" узамен старога пашпарту грамадзяніна СССР. У заявах аб абмене дакумэнта грамадзянам рэкамэндуюць згадваць аб нелегітымнасьці цяперашняга чырвона-зялёнага сьцяга і герба. Гэтыя сімвалы, на думку ініцыятараў руху, з'яўляюцца толькі зьнешнім атрыбутам існуючага рэжыму, але ніяк ня сімвалам незалежнай беларускай дзяржавы.

**Леў КАМЕНСКІ,** *БелаПАН*

## Рада Эўропы дбае пра Каложу

**Днямі стала вядома, што Радай Эўропы прызначаны 35 тысяч франкаў (каля 7 тыс. даляраў) для падрыхтоўкі праекта рэстаўрацыі гарадзенскай Каложы.**

Здаецца, не такія вялікія грошы, аднак гэта самая вялікая сума, прызначаная сёлета на падобныя мэты. На конкурс былі прадстаўленыя 129 праектаў з 15 краінаў эўрапейскае супольнасьці. Для ўдзелу ў конкурсе з іх былі адабраныя 10, з якіх самай важнай палічылі менавіта Каложу.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Праз Беларусь — на Маскву

**Міжнародны марш "За бязьядзерны сьвет" прайшоў праз Гомельскую вобласьць і 18 жніўня пачаў свой шлях па Магілёўшчыне.**

Сярод удзельнікаў гэтага першага марша грамадзяне многіх краінаў Эўропы, а таксама Амэрыкі і Аўстраліі. Частка іх пераадольвае маршрут з Брусэля да Масквы (5500 км.). У асноўным гэта маладыя людзі. Па шляху да марша далучаюцца тыя, хто можа прайсьці пэўную адлегласьць маршрута. У Сьветлагорскім раёне ўдзельнікаў марша віталі прадстаўнікі Партыі зялёных ды іншых грамадзкіх арганізацыяў. У шэрагах луналі бел-чырвона-белыя сьцягі.

Далейшы шлях марша наступны: Бабруйск (20 жніўня), Асіповічы (22—23-га), Пухавічы (25 жніўня), Менск (28—29-га), Сьмілавічы (31-га), Чэрвень (1 верасьня), Беразіно (3 верасьня), Бялынічы (5-га), Магілёў (7—8-га), Шклоў (9-га), Горкі (12-га), Леніна (13-га). Адтуль — у Расею.

**Тэльман МАСЬЛЮКОЎ**

## Тэлебачаньне пад каўпаком

**На думку амэрыканскага экспэрта, у Беларусі — самыя жорсткія на тэрыторыі СНД правілы тэлевяшчаньня.**

Амэрыканскае агенцтва USIA распаўсюдзіла артыкул выкладчыка Калумбійскага ўнівэрсітэта, былога віцэ-прэзідэнта кампаніі Сі-бі-эс Пітэра Херфарда аб незалежных вяшчальных кампаніях у краінах СНД. Аўтар правёў шэсьць тыдняў на радыёстанцыях і тэлестудыях постсавецкай прасторы. Частка яго матэрыялу прысьвечана ўмовам дзейнасьці тэлекампаній у Беларусі.

Пітэр Херфард адзначае, што ў нашай краіне дзейнічаюць самыя жорсткія на тэрыторыі былога Савецкага Саюза правілы тэлевяшчаньня. У адносінах да незалежных студый ужываюцца вялікія абмежаваньні. Незалежных студый, якія б перадавалі ўласныя праграмы навінаў, проста няма. "Наўрад ці можна разлічваць на незалежнасьць ва ўмовах, — робіць высноў аўтар, — калі дзяржаве па-ранейшаму належаць усе перадатчыкі і каналы".

*БелаПАН*




*Малюнак Лявона РАЗЛАДАВА*

# Улады спрабуюць перахапіць палітычную ініцыятыву

Управа грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзідэнта на чале з палкоўнікам Замяталіным у аўторак 15 жніўня выпусьціла ў сьвет чарговую "ініцыятыву" Аляксандра Лукашэнкі. Як было заяўлена, прэзідэнт *"выказаў намер правесьці ў верасьні гэтага года "круглы стол" з удзелам буйных палітыкаў рэспублікі, лідараў палітычных партыяў, грамадзкіх рухаў і саюзаў"*. Пры гэтым Лукашэнка падкрэсьліў, што ў рабоце "круглага стала" *"змогуць прыняць удзел усе палітычныя сілы, якім небыякавы лёс нашай дзяржавы, якія шчыра жадаюць прагрэсу і працьвітаньня беларускага народу"*.

Як бачым, паведамленьне Замяталіна пабудавана гэтак казуістычна заманліва, што любая палітычная сіла, якая не пажадае ўдзельнічаць у прэзідэнцкай ініцыятыве, адразу ж атрымае ярлык "экстрэмісцкай". Магчыма, гэтым і тлумачыцца тая асьцярожнасьць і — у асноўным — прыхільнасьць, з якой прадстаўнікі розных палітычных партыяў пракамэнтавалі карэспандэнту СВАБОДЫ ідэю "круглага стала".

"Пагаварыць, канечне, можна, але што далей — ня ведаю", — так выказаўся сакратар ЦК партыі камуністаў і старшыня руху ДСПС **Віктар Чыкін.** Па ягоным перакананьні, асноўнай тэмай "круглага стала" магло б стаць агульнае жаданьне партыяў дамовіцца з уладай наконт пэўнага кодэксу паводзінаў, так бы мовіць, правілаў палітычнай гульні.

Старшыня АДПБ **Аляксандар Дабравольскі** падкрэсьліў, што мяркуемы вострыя дыялог не павінен ператварыцца ў маналог прэзідэнта з аднадушнай падтрымкай астатніх удзельнікаў. Сапраўды, усім удзельнікам палітычнага працэсу на Беларусі добра вядомая здольнасьць А.Лукашэнкі ператвараць у асабістае шоў любую палітычную акцыю. *"Але мы не зьбіраемся глядзець у рот прэзідэнту, як некаторыя журналісты падчас прамых ліній"*, — зазначыў намесьнік старшыні Сойму БНФ **Юрась Хадыка.** Сп.Хадыка нагадаў, што БНФ яшчэ ў часы старшынства Шушкевіча прапанаваў правесьці "круглы стол" як рэальны шлях да ўсталяваньня адносінаў паміж апазіцыяй і ўладай.

Тэма і рэглямант "круглага стала" — бадай асноўныя ўмовы, якія паставяць яго патэнцыйныя ўдзельнікі. Існуе небясьпека, што вялікі "майстар пераводу стрэлак" Аляксандар Лукашэнка захоча пераключыць увагу палітычных сілаў ад парламанцкіх выбараў на бясконцыя дыскусіі з уладамі і паміж сабой. "Умацаваньне стабільнасьці і грамадзянскай згоды" — надта агульная і неканкрэтная тэма для рэальнага абмеркаваньня. Дабравольскі і Хадыка, напрыклад, настойваюць на прыярытэце пытаньняў эканомікі і разьвіцьця дэмакратыі. Чыкіна найперш хвалюе доступ партыяў да дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Пры гэтым усе палітыкі аднагалосна выступаюць за адмену сумнавядомага ўказу прэзідэнта "Аб роўных магчымасьцях...". Істотнае значэньне мае і рэглямант мяркуемай сустрэчы. Па перакананьні Ю.Хадыкі, "было б рацыянальна дапусьціць да ўдзелу ў "круглым стале" толькі тыя партыі, якія здолелі б прыняць рэальны ўдзел у парламанцкіх выбарах". Мітусьня дробных "палітыкаў" і шматгадзінныя маналогі А.Лукашэнкі могуць стаць, бадай, поўнай прафанацыяй самой ідэі "круглага стала".

Нельга не адзначыць і яшчэ адзін нюанс. На Беларусі традыцыі палітычных "круглых сталоў" распачаў Цэнтар стратэгічных ініцыятываў "Усход-Захад" пад кіраўніцтвам сп.Майсені. На 16—17 верасьня планаваўся чарговы, трэці раўнд гэтага мерапрыемства, былі ўжо разасланыя запрашэньні. Відавочна, што прэзідэнцкія структуры перад восеньскімі парламанцкімі выбарамі вырашылі перахапіць ініцыятыву палітычнага дыялогу ў незалежных структураў і паставіць палітычныя працэсы пад асабісты кантроль і ўдзел прэзідэнта. Няўжо лідары палітычных партыяў пагадзяцца на шэрую ролю статыстаў у спэктаклі аднаго актора?

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Адміністрацыя ўзмацняецца старой гвардыяй

**Падобна на тое, што адміністрацыя Лукашэнкі ў хуткім часе будзе нагадваць кебічаўскі Саўмін ня толькі па структуры, але і па пэрсаналіях.**

Апошнім часам на працу сюды запрошаны шэраг пэнсіянэраў, якія прайшлі адпаведную вывучку на т.зв. адказных пасадах у былым ЦК і Саўміне. Ад хвалёнай каманды "маладых прагматыкаў" ужо мала што засталося. Нават такі адданы чалавек, як Віктар Кучынскі, і той чамусьці трапіў "пад нож". Як толькі ён ад'ехаў адпачываць у Туапсэ, ягоную пасаду памочніка прэзідэнта па асобых даручэньнях скасавалі, апарат расфармавалі, з кабінэта выселілі. Шкада, такі быў чалавек... **М.Г.**

## У Шклове тасама "рэвалюцыя"

**У Шклоўскім раёне чакаецца чарговая кадравая "рэвалюцыя".**

Заявы аб звальненьні з працы напісалі раённы пракурор Сергамасаў, начальнік міліцыі Карпаў, дырэктар камунальнай гаспадаркі Ігнатовіч, начальнік раённага вузла сувязі Пабарцаў.

**Анатоль МІРСКІ**

## У школах "ідуць працэсы"

**Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ ў Міністэрстве адукацыі, у Беларусі сёлета зьменшыцца колькасьць школьнікаў, якія будуць атрымліваць адукацыю па беларуску.**

Канкрэтныя лічбы пакуль невядомыя. Адзначаецца толькі, што гэта датычыць пераважна гарадзкіх школаў. Аднак, як сказалі ў міністэрстве, у сельскай мясцовасьці таксама "ўжо пайшлі іншыя працэсы".

Разам з тым, у міністэрства прыходзіць шмат лістоў ад бацькоў, якія пратэстуюць супраць "русіфікатарскіх дзеяньняў" уладаў і школьных адміністрацыяў, патрабуючы захаваць беларускамоўнае навучаньне для сваіх дзяцей.

У Менску сітуацыя наступная: 11 тысяч вучняў першых класаў будуць вучыцца па-расейску, 5 тысяч — па-беларуску. Адносна астатніх 9 тысяч першаклясьнікаў "пытаньне пакуль ня вырашана".

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Дзіўныя людзі: яны ня хочуць працаваць задарма

**У Берасьці хваля страйкаў дакацілася да радыётэхнічнага заводу. Тут рабочыя не атрымліваюць заробак ужо чацьвёрты месяц.**

Каб разьлічыцца і не дапусьціць новых забастовак, адміністрацыя заводу спрабуе тэрмінова выбіць банкаўскі крэдыт. Калі ж гэта ня выйдзе, то заробак за травень рабочыя змогуць атрымаць не раней за верасень.

Падобная ж сітуацыя склалася на Кобрыньскім тэкстыльным аб'яднаньні. Рабочых адпраўляюць у адпачынкі і ня плоцяць адпускных.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

## У Гомлі зноў спыніўся транспарт

**У сераду, 16 жніўня ў Гомлі вадзіцелі тралейбусаў абвесьцілі забастоўку.**

Тыдзень таму яны ўжо праводзілі 2-гадзінны папераджальны страйк з патрабаваньнем своечасовай выплаты зарплаты. Аднак мясцовыя ўлады іхныя ўмовы ня выканалі. Цяпер транспартнікі настроеныя дзейнічаць больш рашуча.

Каб гарадзкі рух ня быў цалкам паралізаваны, улады выпусьцілі на маршруты дадатковую колькасьць аўтобусаў. Але гэта ня выратавала становішча, бо тралейбусы выконваюць тут амаль 90% пасажырскіх перавозак.

У гэты ж дзень у Гомлі забаставала частка рабочых радыёзавода.

**Сямён АПУЛЕНКА**

## Інтэрвію з палітыкам "азіяцкага маштабу"

**Карэспандэнты францускага часопіса *Paris Match* адклалі заплянаваны раней візіт у Менск, не дачакаўшыся адказу ад прэзідэнцкай адміністрацыі наконт інтэрвію з прэзідэнтам Лукашэнкам.**

Затое ў верасьні прыедуць журналісты з Вялікабрытаніі, якія прадстаўляюць часопіс "Азіяцкі тыдзень". Заплянаваная сустрэча з першымі асобамі нашай краіны. **А.Д.**

# Бітва за ўраджай у цэкоўскіх традыцыях

У сёлетняе жніво мяне асабліва пацешыла распараджэньне прэзідэнта, які разьмеркаваў па Беларусі сваіх прадстаўнікоў (адказных за ўраджай), даручыўшы ім "прыняць меры па мабілізацыі наяўных рэзэрваў і забясьпечыць ход уборачных работ". Што ж, перасяленьне ў цэкоўскі гмах і шчырае параўнаньне прэзідэнцкага крэсла з пасадай першага сакратара ЦК дыктуе сваю логіку дзеяньняў.

### Камбайны — на запчасткі

Ну, а як адчуваюць сябе на жніве простыя "байцы"? Іхнюю працу ў калгасах стараюцца сяктак заахвоціць. Напрыклад, у адной з гаспадарак цэламу зьвяну, якое за зьмену складзе 25 тонаў саломы ў сьцірты, належыць ажно... 15 тысяч рублёў. Шафёру, які за дзень перавязе 50 тонаў збожжа, заплоцяць 5 тысяч, г.зн. па адной тысячы рублёў за кожныя 10 тон. За перавыкананьне дзённага заданьня камбайнэр атрымае 5 тысяч, а ягоны памочнік — 4 тыс.рублёў. Зрэшты, калі хто і мае рэальную магчымасьць добра зарабіць на жніве, дык гэта менавіта камбайнэры. Пытаньне толькі ў тым, калі ім выплацяць заробленыя грошы. Дагэтуль калгасьнікам даводзілася па некалькі месяцаў чакаць заробкаў. Дарэчы, вельмі мізэрных.

Як бы там ні было, але калгасьнікам можна нешта паабяцаць, неяк заахвоціць. А вось камбайнам запчасткі, якіх няма, не паабяцаеш. Большасьць з іх працуе па 8—10 гадоў, а некаторыя — значна даўжэй. Самую старую тэхніку даводзіцца разьбіраць на запчасткі.

Расейскія камбайны ня дужа надзейныя, але на "Лідсельмашы" (не ад добрага жыцьця) зьявілася думка дамовіцца з "Ростсельмашам" наконт зборкі ў Лідзе "Дона". Маўляў, здолелі ж лідчукі скаапэравацца з падмаскоўным заводам і цяпер зьбіраюць у сябе гарадзкія аўтобусы. Канечне, спроба не хваробa. Аднак зьмены ў жыцьці адбываюцца сёньня вельмі хутка. Напрыклад, старшыні калгасаў з Мастоўскага раёну мяркуюць, зарабіўшы на жніве, закупіць у Польшчы партыю камбайнаў. Польскія "Бізоны", па-першае, лепшыя і таньнейшыя за расейскі "Дон". Па-другое, для тых, хто купляе адразу 20 камбайнаў і больш, палякі робяць 30% скідкі. Нарэшце, Польшча — побач, а таму з запчасткамі будзе лягчэй. Рынак ёсьць рынак.

### "Працоўнае напружаньне"

Калі дагэтуль існуе "сельскагаспадарчы фронт", нехта павінен выконваць ролю яго "ідэалагічнага забесьпячэньня". А паколькі камуністычны абкам цяпер выключна аматарскі, то ягоныя ранейшыя функцыі, як мне здаецца, пераняў "Аблсельгаспрод", які ўсё лета склікаў "калегіі", каб прапясочваць сваіх раённых прадстаўнікоў, а разам з імі — старшыняў калгасаў.

Напрыклад, у чэрвені гэты самы "сельгасхарч" быў занепакоены тым, што не ва ўсіх гаспадарках былі зроблены "скотапрагоны", упала "выканаўчая і тэхналагічная дысцыпліна з-за нізкай арганізатарскай работы". Высновы чыста абкамаўскія: "запатрабавана прыняць меры па стабілізацыі", "даць прынцыповую ацэнку кадраў" і г.д. Праграма паляпшэньня таксама ёсьць: праводзіць, напрыклад, конкурсы асеменатараў і сэмінары па аднаўленьні дойнага статку.

Апошняя калегія "Аблсельгаспроду", называючы прычыны адвечных недахопаў на сельскагаспадарчым фронце, была яшчэ больш вынаходлівай у стылёвым сэнсе. Аказваецца, там "не проявили должной настойчивости в использовании внутренних возможностей производства" і "не было создано должное трудовое напряжение"!

Усім зразумела, што прычына неэфэктыўнасьці калгасаў (апроч цяжкага стану эканомікі) у тым, што яны аджылі сваё разам з ЦК КПСС і савецкім палітычным ладам. Бясконца "бітва за ўраджай" працягвацца ня можа. Бо інакш аднойчы лясьне, ня вытрымаўшы, або калгасная сістэма, або — сама дзяржава, для якой існаваньне калгасаў — ледзьве ня самая галоўная мэта.

### Ідэалогія кавалка каўбасы

Нам дагэтуль даводзіцца чуць чыста бальшавіцкае выслоўе — "галоўнае — накарміць народ". Хаця галоўнае — даць чалавеку самому зарабіць ня толькі на кавалак каўбасы, але і на кватэру, машыну, дом. Аднак "песьнярам" саўгасна-калгаснага ладу, якія кіруюць намі сёньня, трэба каб нам хапала толькі на кавалак каўбасы ды на бутэльку. Так прасьцей будзе намі маніпуляваць. Бо наперад добра вядома: чалавек, які мае ўласны дом, шапік, фірму, фэрмэрскую гаспадарку, краму або любую іншую маёмасьць, якую ён зможа перадаць сваім дзецям, ніколі не прагаласуе за Шарэцкага, Новікава, Лукашэнку або некага падобнага. Класава-карпарацыйны нюх у гэтых таварышаў вельмі дакладны, таму яны супраць прыватнай уласнасьці, прыватызацыі, нарэшце — незалежнай эканамічнай палітыкі.

Паспрабую проста паразважаць наконт таго, што можа прынесьці нам у "прадуктовым пытаньні" скасаваньне мытняў на беларуска-расейскай мяжы. Магчыма, што на Смаленск і Маскву зноў рушаць нашы мясамалочнікі, калі палічыць гэта выгадным. Але затрымлівацца іх цяпер ніхто ня будзе. Падключацца да гэтай справы таксама калгасы і мясакамбінаты. Дарэчы, мы гэта ўжо адчулі: у канцы ліпеня стала горш з каўбаснымі вырабамі ў Менску, Баранавічах, Горадні ды іншых гарадох.

Як паказаў нядаўні візіт Лужкова, расейцы не зьбіраюцца інвэставаць у наш аграсэктар. Прадукты браць будуць, але па нізкіх цэнах, бо інакш няма сэнсу. Яны і сваё купляць ня хочуць (у Валагодзкай вобласьці, напрыклад, у лядоўнях 1500 тонаў мяса, якое ніхто не бярэ), бо ў Эўропе можна купіць таньней. Але зусім танна мы прадаваць ня можам, бо высокі сабекошт. Так што зрабіцца "прадуктовым прыдаткам" Расеі нам, мабыць, не давядзецца. Калгасны лад трашчыць па швах. У кожнае жніво напружваецца ўся дзяржава. Ды і працаваць на вёсцы хутка ня будзе каму: у некаторых калгасах толькі трэць насельніцтва працаздольныя. Хіба што беспрацоўных з горада пасылаць?

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## Акрамя Бога, спонсараў не было

**З 7 па 11 жніўня ў м. Мёры Віцебскай вобласьці намаганьнямі мясцовага касьцёлу быў арганізаваны маладзёжны фэст "Мы хочам Бога", на адкрыцьцё якога прыехаў Апостальскі нунцый Ватыкана Аўгустына Маркета.**

18—20-гадовыя ўдзельнікі сьвята сабраліся з розных парафіяў Беларусі і Літвы, жылі ў намётах на востраве, дзе звычайна гудуць дыскатэкі. Акрамя штодзённай імшы на беларускай мове, тут ладзіліся канфэрэнцыі, канцэрты рэлігійнай музыкі. Запомнілася ўсім і крыжовая дарога вакол Мёрскага возера (10 км), а таксама крыжовая дарога аб ненароджаным дзіцяці. Дарэчы, каля касьцёлу ёсьць помнік ненароджанаму дзіцяці, які быў устаноўлены летась падчас такой жа імпрэзы. Наступным летам арганізатары фэсту плануюць запрасіць моладзь іншых канфэсіяў.

Пробашч мёрскага касьцёлу Уладыслаў Пятрайціс сказаў, што "ніякіх спонсараў, акрамя Бога, фэст ня меў". Мясцовыя парафіяне прыносілі да агульнага стала хто бульбу і гуркі, хто мяса і малако.

Перад пачаткам фэсту ксяндза Уладыслава Пятрайціса выклікалі ў Мёрскі райвыканкам і паведамілі, што без дазволу ўрадавага Савету па справах рэлігіі сьвята праводзіць нельга. Давялося ехаць у сталіцу па дазвол, якога чакалі і госьці з Літвы, бо ім не выдавалі візы. У выніку літоўцы спазьніліся на адкрыцьцё.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

## Трагічныя лічбы

**52 чалавекі загінулі, 3467 сур'ёзна пацярпелі на прадпрыемствах Магілёўскай вобласьці за апошнія паўтары гады.**

Вось і думай, што лепш: хадзіць на працу ці быць беспрацоўным.

**Аляксандра ПРОНЬКІНА**

## Зарплату — цэглай

**Работнікі Магілёўскага камбінату "Будматэр'ялы" вывозяць свой заробак на грузавіках.**

Апошнім часам на прадпрыемстве выдаюць зарплату цэглай.

**Аляксандра ПРОНЬКІНА**

## Дыпламаваныя беспрацоўныя

**Сярод беспрацоўных, якія стаяць на ўліку ў Магілёўскім рэгіянальным цэнтры занятасьці, 36% складаюць выпускнікі інстытутаў, тэхнікумаў, вучэльняў.**

Гэта 218 тэхнікаў-тэхнолагаў, 182 інжынэры-мэханікі, 157 тэхнікаў-будаўнікоў, 38 настаўнікаў пачатковых класаў.

**Аляксандра ПРОНЬКІНА**

## "Не давярайце цыганам"

**З такім заклікам зьвярнуўся да грамадзянаў у раённай газэце "Драгічынскі веснік" начальнік аддзяленьня Драгічынскай міліцыі П.Муха.**

Гэты зварот да насельніцтва зьявіўся ў сувязі з шэрагам злачынстваў у Берасьцейскай вобласьці, учыненымі цыганамі. Паводле словаў сп.Мухі, яны валодаюць прыёмамі гіпнатычнага ўзьдзеяньня на людзей.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**




*Малюнак Лявона РАЗЛАДАВА*

## Дубровенскае мяса „паехала" ў Амэрыку

**Гісторыя са зьнікненьнем 70 тонаў мяса ў калгасе "Дуброва" Сьветлагорскага раёну, пра што СВАБОДА пісала ў мінулым месяцы, атрымала цікавы працяг.**

Былы старшыня калгасу Леў Сьпевак (менавіта падчас ягонага кіраўніцтва зьнік статак бычкоў) цяпер знаходзіцца ў ЗША, куды ён пераехаў на сталае жыхарства. Перад ад'ездам сп.Сьпевак наладзіў шыкоўны банкет для сьветлагорскага начальства. А на наступны дзень, калі былы старшыня пералятаў "Боінгам" Атлантыку, раённае кіраўніцтва раптам "успомніла" пра страты ў калгасе "Дуброва" і накіравала туды сьледчую брыгаду. Сьледчыя пацьвердзілі, што мяса сапраўды зьнікла, аднак ня 70 тонаў, як мы паведамлялі, а 123 тоны.

Але ж ня будзеш з-за нейкага мяса зьвяртацца ў Інтэрпол, каб дапытаць сп.Сьпевака...

Тым часам у сьветлагорскіх калідорах улады зьявілася чарговая навіна: за крадзёж 3-х тонаў збожжа затрыманы галоўны аграном саўгаса "Баравікі" Мікалай Прыгодзіч. У раёне ягo ведаюць як вельмі адданага актывіста мясцовай арганізацыі камуністаў. Будзем спадзявацца, што кіраўніцтва ПКБ не пакіне ў бядзе свайго паплечніка. Бо Амэрыка таварышу Прыгодзічу дакладна не дапаможа...

**Віктар ВАЛАДАШЧУК**

*Сёньня*

Сяргей ДУБАВЕЦ

# Хлусьня палітыкаў

Усе беларускія палітычныя сілы сёньня як блізьняты падобныя тым, што абяцаюць праўду і справядлівасьць для ўсяго народу. Між тым, найвялікшая праўда палітыкі якраз і заключаецца ў тым, што абяцаньне праўды і справядлівасьці для ўсіх — гэта заўсёды хлусьня. Палітыка — інтарэсы пэўных людзей, груповак, кланаў. Палітыкі нязьменна гавораць пра інтарэсы ўсяго народу (хоць увесь народ — гэта чыстая абстракцыя), але ніколі (ніколі ў гісторыі!) ня служаць гэтым інтарэсам. Ня могуць служыць, калі б і хацелі. Бо як можна служыць "інтарэсам" абстракцыі? Той, хто гэта зразумеў, выбіўся ў людзі і няблага зарабіў. А той, хто не зразумеў...

Найвялікшы парадокс палітыкі ўсіх часоў і народаў у тым, што людзі нязьменна вераць у "праўду і справядлівасьць палітыкі". У гэтым — загадка і трагедыя народа, адсюль усе сталінізмы, фашызмы, застоі, перастройкі, "фэноմэны" ўсялякіх папуліцкіх дзеячоў і г.д. Варта азірнуцца навокал, каб пераканацца, што найбольш добра жыве ў сьвеце той народ, які думае не пра -ізмы, "куды мы ідзем?" і г.д., а пра лепшы заробак за сваю лепшую працу, пра свой дом і адпачынак. У такога народа ёсьць шанцы.

Калі ў народа пытаюцца пра ягоныя палітычныя погляды ("пусьць народ скажат, за какой он флаг") — гэта чысты абсурд. Якія ў мяне могуць быць палітычныя погляды, калі я што суткі раблю, што суткі не раблю — канцы з канцамі не сыходзяцца аднолькава. Нашы выбары — гэта выбары з некалькіх хлусьняў пра дабрабыт для ўсіх, шчасьце і сьветлае заўтра. Палітыкі абяцаюць, бо ім паложана хлусіць, інакш яны не былі б палітыкамі. А мы — верым, хоць нам і не паложана. Калі мазгі ёсьць.

Кажуць — кампэнсуюць уклады. Трымай кішэню шырэй. Нідзе ў постсавецкіх рэспубліках не кампэнсавалі, а ў Беларусі — залатая жыла, ці што? Толькі падстаўляй... Яшчэ кажуць пра інтэграцыю з Расеяй, пра адзінства гістарычнага лёсу славянскіх плямёнаў, пра адраджэньне СССР... І народ верыць. Гэтаксама, як верыў Кашпіроўскаму. А ў Кашпіроўскага нядаўна спыталі: чаму вы перасталі даваць сэансы, вам жа верылі мільёны? А ён адказвае — дурні верылі...

Я яшчэ магу зразумець, калі рабацяга галасуе за Расею. Бо ня кожны ведае гісторыю і ня кожны ў Расеі бываў, каб зразумець, што ўсе размовы пра наша з расейцамі кроўнае братэрства, адзінства гістарычнага лёсу, славянскую ідэю і г.д. — чыста прапагандысцкі блеф, звычайная палітычная хлусьня. Але я не разумею, калі рабацяга галасуе за адраджэньне СССР. Навошта! Каб зноў прасіць "трояк да палучкі"? Калгасьнік, які ўсё жыцьцё перад начальствам нямее, баіцца — галасуе за калгаснага старшыню ў прэзідэнты. І пры гэтым усе кажуць, што хочуць жыць лепей. Такое адчуваньне, нібы народ сам сябе дурыць і толькі на словах хоча, каб было лепш.

Іншая рэч, калі палітык выступае за дзяржаўную незалежнасьць. Гэта значыць, што кожная барысаўская запалка, якую я набыў, нясе маю капейку ў бюджэт маёй краіны, адкуль тая капейка пойдзе на дзіцячы сад, куды я ваджу маё дзіця (цяпер гэты сад зачынілі — няма грошай) або на прыстойную стыпэндыю для студэнта. За такога яшчэ можна прагаласаваць. Альбо калі палітык скажа адназначна — за рэстытуцыю, то я буду ведаць, дзе якая зямля мне за дзеда майго паложана. Альбо каб хоць хаты далі прыватызаваць... У мяне знаёмы пасьпеў, прыватызаваў, цяпер ягоную кватэру ацэньваюць у дзесяць новых "жыгулёў". А раней, "пры сацыялізме", гэты сусед толькі пазычаў "да палучкі"...

Словам, трэба за тых палітыкаў галасаваць, ад якіх сапраўды палёгка будзе і народ збагаціцца. Я буду галасаваць за таго, які мне асабіста выгадны, а ты — за таго, які выгадны асабіста табе. І паглядзім, хто пераможа. Усё астатняе — хлусьня. І пра славянскае адзінства, і пра ўсялякія інтэграцыі, і пра вернасьць ленінскім ідэалам — пра ўсякую "радасьць", якая для ўсіх. Не бывае адзінай праўды і справядлівасьці для ўсіх.

Вы як хочаце, а я больш Паўкам Карчагіным быць не хачу. Увесь сьвет з нашага папулізму сьмяецца. А ў мяне дзеці растуць. Дык няхай хоць з іх сьмяяцца ня будуць.

# Застанемся батракамі?

## Як ратуюць калгасы

Становішча ў галіне харчаваньня яскрава дэманструе агульны крызіс калгасна-саўгаснай сістэмы. Цэны на рынку амаль на 30% ніжэйшыя за тыя, што ў дзяржаўных крамах, якія забясьпечваюцца калгасамі ды саўгасамі. Нават імпартовыя прадукты харчаваньня (значна лепшай якасьці) ужо таньнейшыя! А калі б не драконаўскія "расейскія" пошліны, да якіх далучылася наша кіраўніцтва, то прадукцыю нашых сельскагаспадарчых "фабрык" ніхто б ужо не купляў. "Вось дзеля таго, каб захаваць сваіх вытворцаў, і былі ўведзеныя тыя пошліны", — так тлумачыць свае дзеяньні кіраўніцтва. Маўляў, мы клапоцімся пра простых сялянаў, бо яны могуць застацца бяз працы.

У сапраўднасьці ж, мэта гэтае палітыкі — штучнае захаваньне калгасаў і саўгасаў і тых адносін, якія ў іх замацаваліся: адносінаў залежнасьці сялянаў, якія ня маюць зямлі, ад старшыніпана, які фактычна валодае і зямлёй, і вынікамі працы на ёй. Менавіта ўлада гэтых чырвоных памешчыкаў і зьяўляецца каркасам той палітычнай піраміды, якая сёньня пануе на Беларусі: у падмурку беспрацоўныя калгасьнікі, якім амаль ня плоцяць заробкаў — над імі старшыні, якія ставяць сабе катэджы ды лезуць (не бяз штучнага посьпеху) у парламант — вышэй сярэдняе кіраўніцтва, прызначанае прэзідэнтам, але абапіраецца яно на тых самых старшыняў — і прэзідэнт, які ўзначальвае гэтую піраміду. Вось чаму ўлады ўсялякімі сродкамі адцягваюць рэформы на сяле. Але калі плод сасьпеў, ён павінен упасьці! І зьмены, якіх не дачакацца зьверху, пачынаюцца зьнізу.

## Нязбыўная мара

На мінулым тыдні ў Стоўбцах адбылася цікавая падзея: суд разглядаў зыск вэтэрынарнага лекара Аляксандра Залатарова супраць старшыні калгасу "Чырвоны Кастрычнік" Антона Юнцэвіча. Гэтага старшыню ў раёне ведаюць добра: даўно ўзначальвае пакаэльны ў мінулым калгас, паставіў сабе на беразе возера вялікі катэдж, бяспасьпяхова балатаваўся ў Вярхоўны Савет, адзін з лідараў Аграрнае партыі Беларусі. Да таго ж у сп.Юнцэвіча своеасаблівыя стасункі з кіраўніцтвам раёну: стаўбцоўскія "шышкі" ставяць катэджы менавіта на зямлі ягонага калгасу.

А хто ж такі Залатароў? Як гэта ён, малады чалавек, набраўся мужнасьці "шчапіцца" з самім Юнцэвічам"? Адкуль упэўненасьць і сіла? Высьвятляецца, што Залатароў належыць да Сялянскае партыі, суполку якой узначаліў у "Чырвоным Кастрычніку". Ён, ды яшчэ некалькі калгасьнікаў, якія таксама "захварэлі" на ідэю незалежнага сялянскага жыцьця, пачалі агітаваць мясцовы люд у "крамольны" бок. Больш за тое, Залатароў нават паспрабаваў балатавацца па адной акрузе з Юнцэвічам у абласны Савет, і,сабраўшы амаль столькі ж галасоў, колькі вядомы аграрый, перакрыў таму шлях у дэпутаты. Суполка Сялянскай партыі ўпэўненая, што менавіта пасьля гэтага старшыня пачаў ганеньні на Залатарова і, у выніку, той быў звольнены.

Але ў жыцьці няма такіх кіслых, як жнівеньскі яблык, сюжэтаў. Усё было куды цікавей. Рэч у тым, што Залатароў, як і належыць сябру Сялянскае партыі, марыў быць не наймітам, а гаспадаром. Захацеў стаць арандатарам. Выпадак ажыцьцявіць мару надарыўся тады, калі было вырашана перавесьці яго з вэтэрынараў у загадчыкі жывёлагадоўчай фэрмы. Аляксандар быў упэўнены, што бяз зьмены ўладальніка становішча на фэрме ўсё роўна ня выправіць і прапанаваў такую камбінацыю: ён звольніцца з вэтэрынараў узамен на права ўзяць разам з калектывам фэрму ў арэнду. І нават аформіў сваю дамову адпаведнай запіскай да старшыні. Адносна Залатарова і яго сьведкі, Стасі Дубоўскай, якая працавала на фэрме, калектыў быў ня супраць, толькі прасіў дамовіцца са старшынём наконт сенакосаў ды іншых "паслуг".

Аднак надзеі Залатарова ня спраўдзіліся. Праўленьне, якое неўзабаве сабраў старшыня, просьбу аб звальненьні вэтэрынара задаволіла хутка і незалежна ад умовы аб арэндзе. Дарэчы, гэты "пшык" з арэндай быў запраграмаваны яшчэ калі калгасьнікі прынялі статут, у якім сьцьвярджалася, што арэнда дазваляецца толькі пры стопрацэнтнай згодзе калектыву (насуперак закону аб арэндзе, дзе дастаткова 2/3). Сябры сялянскае суполкі ўпэўненыя, што прыняцьце гэтага статуту нагадвае рэспубліканскі рэфэрэндум: што сказаў "бацька", тое і прынялі, нават не разумеючы, што трапілі ў пастку. Не выпадкова, што пасьля "залатароўскага сходу" нехта ад арэнды адмовіўся і таму хутка было абвешчана, што народ Залатарову не давярае. Так былы вэтэрынар стаў беспрацоўным.

Тое, што ён не пагадзіўся і падаў у суд, патрабуючы аднаўленьня на былой пасадзе, — па вялікім рахунку, ужо толькі фон. Гэта асабісты, чалавечы працяг вялікай палітычнай драмы: тыя, хто трымае ўладу на сяле ў сваіх руках, добра разумее, што нельга дзяліцца ані калачкам. Варта толькі адной фэрме пайсьці на арэнду, пачаць працаваць на сябе, людзі пачнуць зарабляць сапраўдныя грошы — і "самастойнасьці" захочацца ўсім астатнім. Вось тады калгасьнікі пачнуць ня проста шукаць па кутох аб велізарным катэджы, што пабудаваў старшыня. Яны пацікавяцца законамі і спытаюць, чаму нехта абмежаваў іхнае права выхаду на арэнду, ці нават права на атрыманьне свайго кавалка зямлі. Больш за тое, яны зьбяруцца зноў і адменяць гэты статут. Каб такога не адбылося і зьнішчаюцца сёньня парасткі вольнадумства. Тое, што адбылося са старшынём суполкі Сялянскае партыі у вёсцы Заямнае на Стаўбцоўшчыне — толькі адзін прыклад.

Але цікава, што рэзананс на той жа Стаўбцоўшчыне ён меў велізарны. Можна сказаць, што для сотняў сялянаў прыклад Залатарова стаў сігналам: трэба дзейнічаць, трэба і можна не баяцца "чырвоных памешчыкаў" і дамагацца ад іх "зямлі і волі".

Паказальна, што ўсё менш надзеяў сяляне зьвязваюць з прэзідэнтам. У той жа "Чырвоны Кастрычнік" прыязджаў кантралёр з прэзідэнцкай службы кантролю і напачатку, як мне казалі, нібыта вельмі сур'ёзна ўзяўся за справу. Нават будоўля 3-павярховага катэджа Юнцэвіча прыпынілася. Але хутка тэхніка зноў запрацавала, праверачы зьехаў пісаць сваю даведку, водгукам якой была паперка, атрыманая Залатаровым: маўляў, у Вашай справе ўсё было зроблена правільна. Нават калі так, то няўжо і будоўля такога палацу — гэта правільна? У той самы час, калі калгасьнікі практычна не атрымліваюць грошай. Няўжо паўгалодная жывёла, неўзараныя палеткі — гэта правільна? Няўжо гэта добра, што калгасьнік Іван Высоцкі, які хацеў стаць фэрмэрам, так і не атрымаў тут, у родным калгасе, гэтай самай нявыкарыстанай зямлі і будзе вымушаны зьехаць на новае месца?!

## Новая зямля

У госьці да стаўбцоўскага фэрмэра Мікалая Булаша мяне прывёз дырэктар мясцовага рынку Эдуард Брода, які, можна сказаць, узначальвае раённую арганізацыю Сялянскае партыі на Стаўбцоўшчыне. Фэрма Булаша — гэта, у нейкім сэнсе, паказальная гаспадарка, якой многія зайздросьцяць. Былы шафёр Мікалай Булаш некалькі гадоў таму дамогся крэдыту (гарантам быў "Белаграпрамбанк", які тады ўзначальваў цяперашні прэм'ер М.Чыгір), набыў транспарт, пабудаваў фэрму, на якой зараз трымае 14 галоў жывёлы, атрымаў 25 га зямлі.

Калі мы наведаліся да Булаша, камбайн, што фэрмэр арандуе ў мясцовым калгасе, якраз скончыў абмалот ячменю. Гаспадыня частавала камбайнэраў, а гаспадар, катораму заўсёды не хапае часу каб перакусіць, рыхтаваўся сустракаць статак, які гналі з поля ўнукі. Часу было мала і таму размова атрымалася кароткай. Выдзелю тры моманты.

Першае. Як сьцьвярджае сп.Булаш, гэта прыватныя гандляры "залілі" стаўбцоўскі рынак малаком, сьмятанкаю ды маслам: 60 літраў, якія ён прывозіць на базар у нядзелю, раскупляюць за 15—20 хвілін. Бальшыня пакупнікоў прыязджаюць у Стоўбцы з Менска. Малако ён прадае па 1700—2000 рублёў за літар, і яно значна лепшай якасьці, чым тое, што прадаецца ў крамах. Такая ж сітуацыя з мясам.

У тым, што калгасы хутка распадуцца, сп.Булаш не сумняваецца: "Яны ня могуць пратрымацца, бо там не перасталі красьці, нават яшчэ больш крадуць". На думку М.Булаша, калгасы абавязкова трэба рэфармаваць, а не раскідваць цалкам — ісьці па шляху стварэньня дробных арэндных калектываў і фэрмэрскіх гаспадарак. Гэта другое.

І трэцяе: фэрмэрам патрэбная дапамога на дзяржаўным узроўні. Толькі калі будзе бачны дзяржаўны клопат, паступовая зьменіцца і псіхалогія сёньняшніх калгасьнікаў, многія з якіх прывыклі красьці з калгаснага поля і тое самае робяць на фэрмэрскім. Зайздрасьць да фэрмэраў страшэнная. У Булаша перасяклі высокавольтны кабэль, атруцілі кабана, кралі бульбу. Усё гэта робяць ня нейкія прыезджыя, а свае. Аднак у іх ёсьць добры прыклад, бо яны бачаць, як раскрадаюць гаспадарку кіраўнікі. Ня ўсе, але такіх шмат. Магчыма заўтра, калі яны "прыхватызуюць" усе сельскія аб'екты, ня будзе мацнейшых прыхільнікаў рынкавых адносінаў у вёсцы, але сёньня пакуль няма мацнейшых праціўнікаў.

...Дык калі развалiцца калгасы? Ці не тады, калі "чырвоныя памешчыкі" ператворацца ў звычайных памешчыкаў? Былы вэтэрынар з "Чырвонага Кастрычніка" Аляксандар Залатароў пракамэнтаваў гэтую пэрспэктыву наступным чынам: простыя сяляне зноў застануцца на сваёй зямлі батракамі.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Колькі каштуе "кватэрнае пытаньне" ў сталіцы

## Ці застануцца цешчы без анэкдотаў?

*"Ды людзі такія ж, толькі вось кватэрнае пытаньне іх трохі сапсавала"*, — гаварыў пра савецкіх людзей Воланд з "Майстра і Маргарыты".

Запаветная мара беларусаў "прыдбаць свой кут" у наш час усеагульнай урбанізацыі выкрышталізавалася ў вобраз стандартнай кватэры ў панэльным мікрараёне. Сотні тысяч вясковых жыхароў за апошнія дзесяцігодзьдзі перабраліся на працу ў горад, стварылі сем'і і сталі ў кватэрную чаргу. Махінацыі з прапіскамі, выпіскамі, жаніцьбай і разводамі захапілі ў савецкія часы ўсё ненамэнклатурнае насельніцтва краіны, і сталі адной з асноўных тэмаў газэтных фэльетонаў. Найбольш таленавітыя "прасіцелі" артыстычна страчвалі прытомнасьць у кабінэтах раённых мэраў, прынцыповыя спасылаліся на савецкую Канстытуцыю ("Я маю права на жыльлё." — "Майце і надалей", —адказваў чыноўнік), самыя няспрытныя жылі ў інтэрнатах па дзесяць гадоў.

Бадай, ні ў воднай краіне няма столькі злосных анэкдотаў пра цешчу, бо ні ў воднай краіне не было столькі маладых сем'яў, якія б жылі разам са сваімі бацькамі. Толькі прапісаўшы ў сябе ўсіх бабуляў, дзядоў, сыноў і дачок у адной кватэры, гаражане маглі дамагчыся, каб колькасьць мэтражу на аднаго жыльца не перавысіла патрэбных шэсьць квадратных мэтраў, што давала права маладым стаць у чаргу.

Здаецца, цяпер усе гэтыя праблемы хутка застануцца толькі ў гарадзкім фальклёры і людзкой памяці. Бо на першы план выходзіць адна праблема — грошы.

Зрэшты, гавораць, што недзе яшчэ даюць бясплатнае жыльлё. Гэта так, але гэта "недзе" з кожным месяцам звужаецца, як шагрэневая скура. За палову бягучага года дзяржава, напрыклад, пабудавала толькі 36 працэнтаў ад мінулагодняга аб'ёму жыльля, у 94-ым было менш за 93-ці і г.д. Раённыя выканкамы цяпер даюць кватэры амаль выключна толькі ільготнікам. Напэўна, у бліжэйшыя гады спадзявацца на бясплатнае жыльлё можна будзе толькі чалавеку з такой прыблізна біяграфіяй: шматдзетны "афганец", інвалід Вялікай Айчыннай вайны, Народны хімік Беларусі, чэмпіён сьвету па міліцэйскім мнагабор'і.

Астатнім давядзецца разьлічваць толькі на свае матар'яльныя магчымасьці. Таму пагаворым пра самае дарагое, што ў нас ёсьць — цэны.

## Мы за цаной не пастаім

У гэтым сэнсе мы шпаркім ходам рушым да Эўропы. Калі зараз успомніць 1990-91 гады, то застаецца толькі тужліва-летуценна пашкадаваць аб нерэальнасьці існаваньня машыны часу. Цяпер як анэкдот успрымаюцца некаторыя рэальныя факты з таго нядаўняга жыцьця, калі грошай ні ў кога не было, а эміграваць хацелі амаль усе. Вядома, што аднапакаёвую кватэру ў цэнтры Менска куплялі за тысячу даляраў, двухпакаёвую — за дзьве-тры тысячы. Аднак, цэны на кватэры з таго часу (вядома ж, у далярах) павысіліся ў некалькі разоў. Ніякі банк, ніякая іншая дзейнасьць не маглі забяспечыць лепшую эфэктыўнасьць капіталаўкладаньняў.

Пасьля прыходу Лукашэнкі, аднак, нават у гэтай сфэры пачаўся застой. Грошай у людзей няма, і цэны вось ужо год амаль не зьмяняюцца. Прагнозы на будучыню даволі супярэчлівыя: з аднаго боку, восеньню заўсёды ажыўляецца дзелавая актыўнасьць і растуць цэны, з іншага — значна больш важкім чыньнікам уяўляецца нядаўнае падвышэньне ў тры разы коштаў на кватэрную плату і камунальныя паслугі. Падобны фэномэн зьведала ў свой час Прыбалтыка, калі пасьля лібэралізацыі коштаў на камунальныя паслугі кватэры ў Рызе патаньнелі на 30-50 працэнтаў. Рэч у тым, што многія пэнсіянэры і іншыя небагатыя людзі аказаліся ня ў стане ўтрымліваць двух-трохпакаёвыя кватэры і вымушаны былі прадаваць іх і купляць меншыя.

У нас (хаця і не ў такой ступені — бо няма эміграцыі некарэнных жыхароў), адбудзецца нешта падобнае. Пры гэтым спэцыялісты сьцьвярджаюць, што найперш патаньнеюць шматпакаёвыя кватэры, асабліва ў мікрараёнах. Сапраўды, багатаму чалавеку мікрараён не патрэбны, бяднейшыя ж звычайна паляпшаюць жыльлёвыя ўмовы шляхам абмену. Кошты на аднапакаёўкі, як мяркуецца, застануцца даволі стабільнымі, паколькі гэтага віду кватэраў існуе нават пэўны дэфіцыт.

## Хоць тут "цэнтрыстаў" паважаюць

Сапраўды, разьбежка ў цэнах на аднапакаёвыя кватэры намнога меншая, чым у іншых катэгорыях. Сучасная аднапакаёўка ў самых дальніх новых мікрараёнах Менска каштуе 8-9 тысячаў даляраў. Патэнцыйна можна знайсьці і за 7 тысячаў USD, але гэта, вобразна кажучы, будзе "альбо хрушчоўка альбо Чыжоўка" (самы экалагічна і крымінальна небясьпечны раён сталіцы). Між тым, самая дарагая кватэра з адным пакоем рэдка калі можа перавысіць 14-15 тысячаў даляраў. Забаўна, але за гэткую ж суму ў мікрараёнах Малінаўка альбо Сухарава можна купіць нармалёвае трохпакаёвае жыльлё.

Увесь Менск умоўна падзелены на сем зонаў кошту нерухомасьці. Хаця 1-й зонай з'яўляецца менавіта цэнтар горада (праспэкты Скарыны, Машэрава і ўсё, што побач з імі), увесь падзел не адпавядае чыста геаграфічным прынцыпам. У той час як большасьць мікрараёнаў заслугоўвае толькі 7-й катэгорыі, Уручча, якое нават выйшла за гарадзкое кальцо, абазначана 3-ю зонай. Па-першае, прыгожае, па-другое, экалагічна чыстае, лес, і па-трэцяе, туды вядуць мэтро. А некаторыя вуліцы ў цэнтры (праспэкт Дзяржынскага, Люксэмбург, Цэткін) атрымалі чацьвёрты ўзровень з-за таго, што прадстаўлены пераважна хрушчоўкамі. А, напрыклад, для Заводзкага раёну жудасны экалагічны стан заўсёды зьяўляецца абцяжарваючым фактарам.

Раён зьяўляецца асноўным цэнаўтваральным чыньнікам пры апэрацыях з нерухомасьцю. Выглядае гэта так: двухпакаёўка ў прэстыжным доме ў цэнтры пацягне на 30 тысячаў даляраў, у той час як чатырохпакаёвая кватэра ў мікрараёне каштуе 18-24 тысячы USD. Прадаўшы сваю сталінскіх часоў трохпакаёвую кватэру на праспэкце Скарыны за 50-60 тысячаў даляраў, можна купіць тры трохпакаёвыя ў мікрараёнах. Зрэшты, прадбачлівыя людзі пачынаюць даволі асьцярожна ставіцца да шыкоўных сталінскіх дамоў з-за іхнага ўзросту, аддаючы перавагу новым элітным кватэрам апошніх гадоў, дзе кухні таксама дасягаюць ужо 12-16 метраў. Але найніжэйшы рэйтынг маюць "хрушчоўкі" са сваімі 5—6-мэтровымі кухнямі, сумешчаным санвузлом, газавымі гарэлкамі, якія не выратоўвае нават цэнтральнае месцазнаходжаньне. Так, двухпакаёвая "хрушчоўка" амаль у самым цэнтры (вул.Чкалава, Казлова, Р.Люксэмбург, Парк Чалюскінцаў) каштуе ўсяго 11—12 тысяч даляраў — прыкладна столькі ж, колькі "цывілізаваныя" панэльныя двухпакаёўкі ў самых далёкіх мікрараёнах.

## Менск — горад кантрастаў, альбо І ў нас будуць свае гарлемы

Калі намаляваць "партрэт" ідэальнай кватэры, то ён будзе выглядаць прыблізна так: цагляны сучасны дом у цэнтры горада, разьдзелены санвузел, вялікая кухня, лоджыя, ліфт, тэлефон, ня першы і не апошні паверхі. Наяўнасьць альбо адсутнасьць кожнага з гэтых чыньнікаў павышае альбо паніжае кошт на 5-10 працэнтаў.

Асабліва, мне здаецца, нашы людзі паважаюць цэглу. Мой сябра, студэнт, прадаў сваю двухпакаёвую кватэру ў вядомым "чырвоным доме" на Танкавай за 31 тысячу даляраў і купіў па ўсіх парамэтрах амаль такую ж у суседнім, але панэльным доме на вуліцы Заслаўскай за 22 тысячы. Зрэшты, у гэтым канкрэтным выпадку справа ня столькі ў будаўнічым матар'яле. Проста "брэсцкая крэпасьць" на Танкавай — амаль легендарны дом, дзе жыве пераважна эліта, і пакупнік кватэры вырашыў аддаць любыя грошы менавіта за гэта. А ў "панэлях" на Заслаўскай жывуць людзі папрасьцей, многія з якіх цяпер вырашылі палепшыць свае матар'яльнае становішча шляхам абмену і зьбілі цэны ў гэтым прэстыжным раёне.

"Абмен з даплатай" цяпер увогуле даволі распаўсюджаная з'ява. Адбываецца працэс унутрыгарадзкой міграцыі, які ў бліжэйшыя гады толькі павялічыцца: багатыя — у цэнтар, бедныя — на ўскраіны. Пры гэтым, як і паўсюль, прадаўцоў значна больш, чым пакупнікоў, так што пры пэўнай настойлівасьці цэнтар можна здабыць адносна нядорага.

Ужо будуецца ў нас жыльлё і для самых багатых. Адна фірма цяпер узводзіць дом ("кукурузіну") на скрыжаваньні вуліцаў Багдановіча і Харужай з двухузроўневымі кватэрамі, аховай, падземным гаражом, адмысловай службай эксплуатацыі. Шасьціпакаёвая кватэра агульнай плошчай у 170 кв.м (жылая — 100 кв.м) абыдзецца гаспадару "ўсяго" ў 160 тысячаў даляраў. (Дарэчы, большасьць прывабных цагляных дамоў будуюцца цяпер у Менску не дзяржавай, а прадпрымальнікамі).

Калі за кліентаў гэтай будаўнічай кампаніі, напэўна, ня варта хвалявацца, то сябрам многіх ЖБК (жыльлёва-будаўнічых кааператываў) цяпер не пазайздросьціш. Спакусіўшыся на абяцаньні таньнейшых коштаў, людзі на працягу года акуратна здавалі грошы, і раптам ім заяўляюць: трэба даць яшчэ. У выніку цана кватэры павышаецца рынкавую (пры гэтым няма гарантыяў, што кватэра ўрэшце будзе), альбо фірма прапануе вярнуць грошы. У "зайцах".

Так што калі па нейкай шчасьлівай жыцьцёвай недарэчнасьці ў вас раптам зьявіліся грошы, лепей ня зьвязвацца з ніякімі канторамі, а проста купіць кватэру. Толькі не пашкадуйце некалькі сотняў даляраў і ажыцьцявіце зьдзелку праз салідную юрыдычную фірму. Бо будзе вельмі непрыемна, калі ў былога гаспадара вашай кватэры нечакана зьявіцца часова выпісаны ў сувязі са службай у войску сын, які прыйдзе да вас "у госьці" і папросіць ачысьціць памяшканьне...

**Віталь ЦЫГАНКОЎ**

## Харчовая праблема ў дзіцячай газэце

**На дачах "Азёрныя" Полацкага раёну пачала выходзіць дзіцячая рукапісная газэта "Магазін".**

Рэдакцыйны артыкул першага нумару быў прысьвечаны харчоваму пытаньню. З дзіцячай дасьціпнасьцю апісваецца як прэзідэнт Лукашэнка з "дапамогай клея робіць каўбасу з венікаў". У складзе рэдакцыі ёсьць 8-гадовы масквіч, які ў сваім матар'яле аналізуе праблему "хто каго зьесьць" — Кучма Ельцына альбо наадварот. Пабачылі сьвет ужо два нумары газэты.

**Тамаш ГУРБА**

## Шлюбны "бартэр"

**У Кобрыні за першае паўгодзьдзе 1995 г. зарэгістравана амаль столькі разводаў, колькі заключана шлюбаў. Усяго распалася 110 сем'яў.**

Гэта самая высокая лічба за апошнія чатыры гады. Прычым разводзяцца ня толькі пары, што пражылі па 2—3 месяцы, але і тыя, хто пражыў разам ад 10 да 25 гадоў.

**Мірон ГАМОН**

## "Іншамарак" паменее

**Зьмянілася карціна на аўтарынку ў Берасьці.**

Калі раней з-за мяжы прыганялі пераважна машыны замежнай вытворчасьці, то пасьля павелічэньня мытных пошлінаў, гандляры пераключыліся на "Жыгулі". Патрымааны аўтамабіль можна купіць за 1200-1500 даляраў.

**Мірон ГАМОН**

## На сьвята ў Бон

**На традыцыйнае нямецкае сьвята "Канцлерфэст", якое адбудзецца 8 верасьня ў Боне, упершыню запрошана група моладзі з Менска.**

У гэты дзень Гельмут Коль будзе прымаць у сваёй рэзідэнцыі вядомых палітыкаў, навукоўцаў, шмат іншых людзей, якія прынесьлі карысьць нямецкаму народу. Некалькі беларускіх хлопцаў і дзяўчат атрымалі гэтае права за ўдзел у добраўпарадкаваньні магіл нямецкіх салдатаў. У прыватнасьці, разам з нямецкімі аднагодкамі яны на працягу трох тыдняў займаліся будаўніцтвам помніка на брацкай магіле каля вёскі Тарасава Менскага раёну, дзе пахавана 96 салдатаў Вэрмахта.

**Ільля АЛЯКСАНДРАЎ**

# У пошуках здароўя

**У людных месцах Менска часта сустракаюцца людзі з фотаздымкамі хворых дзяцей. Адчай штурхае іх на вуліцу —яны просяць міластыню на лячэньне за мяжой. Але наўрад ці бедныя могуць дапамагчы бедным.**

У "райскім" СССР імпартовыя лекі і замежныя дактары даставаліся выключна высокапастаўленым афіцыйным асобам. Цяпер простыя грамадзяне таксама могуць паехаць на лячэньне за мяжу дзяржаўным коштам, але толькі з дазволу спэцыяльнай камісіі Міністэрства аховы здароўя, якой кіруе намесьнік міністра. Менавіта яна павінна прызнаць бездапаможнасьць айчыннай мэдыцыны, пасьля таго як "былі выкарыстаныя ўсе дазволеныя для прымяненьня мэтады лячэньня ў лячэбна-прафілактычных установах Беларусі". На апошнім пасяджаньні камісіі вызначана, што з 22 заявіцеляў палова мае патрэбу ў замежнай мэдыцынскай дапамозе, астатнім адмоўлена альбо пабяцана закупіць імпартовыя лекі. Але, як патлумачылі ў міністэрстве, гэта яшчэ зусім не азначае, што рашэньне камісіі неадкладна выконваецца. Некаторыя "шчасьлівыя" так і паміраюць, не дачакаўшыся абяцанай дапамогі ад роднай краіны.

Штомесяц каля 20 чалавек зьвяртаецца ў міністэрства. Станоўчае рашэньне прымаецца толькі па трэцяй частцы заяваў, звычайна, калі пацыенту пагражае жыцьцё або сьмерці. Адзін высокапастаўлены чыноўнік міністэрства нават параіў напісаць, што ня варта марнаваць валюту на лячэньне за мяжой, а лепш аддаць яе на разьвіцьцё айчыннай мэдыцыны. На першы погляд, думка слушная. Але ці павінна дзяржава за кошт жыцьця сваіх грамадзянаў вырашаць уласныя праблемы?

На 1 жніўня з дзяржаўнага валютнага фонду патрачана ўсяго толькі 400 тысячаў даляраў на лячэньне 20 чалавек за мяжой. Але гэтыя грошы дзяржаўная казна выдзеліла яшчэ ў мінулым годзе. Сёлета з валютнага фонду ня выдаткавана ніводнага цэнта і ў міністэрстве папярэдзілі, што грошай хіба хопіць на нязначную мэдыцынскую дапамогу аднаму пацыенту. Астатнім давядзецца пачакаць. Таму людзям даводзіцца шукаць спонсараў альбо ісьці на вуліцу.

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

*Взгляд из Москвы*

# Президент Лукашенко — вождь восточных славян

Либеральная белорусская пресса, оппозиционная Александру Лукашенко, не спорит о том, хочет или нет он стать президентом Великой России или какой-нибудь Восточно-Славянской Федерации. Спорят лишь о том, может ли это у него получиться.

Готовность Лукашенко ездить в русскую провинцию и вступать там в прямые контакты с местными лидерами, стремление попасть в российские СМИ, легкость, с которой он признает русских "старшими братьями" белорусов, находят свое объяснение. Это — не поведение человека, достигшего вершины карьеры, дальнейшее "восхождение" которого уже неотделимо от "восхождения", успехов его государства. Это, скорее, поведение человека, для которого его страна слишком мала, как для Наполеона была мала Корсика, а для Гитлера Австрия. На первый взгляд, это просто бред. Но только на первый взгляд. Внимательное рассмотрение белорусской ситуации и возникшего из нее "феномена Лукашенко" делает эту гипотезу (разумеется, не гипотезу о Лукашенко как о нашем будущем президенте, а гипотезу о том, что он вынашивает подобные планы) довольно правдоподобной.

Несмотря на советскую, а затем и постсоветскую "суверенную" государственность, этническое самосознание белорусов во много раз слабее самосознания многих негосударственных народов. В отличие от третьего восточнославянского брата — украинцев, они не имели традиции национального государства или протогосударства, борьбы за независимость, своего "эпоса" освободительных войн, не имели своего аналога Галичины с ее относительно свободной национальной жизнью в рамках Австро-Венгрии и особой религией — униатством. Можно сказать, что белорусы не могли решить для себя (и так и не решили до сих пор), кто они — особый народ или русский "субэтнос". За годы советской власти белорусы подверглись колоссальной русификации. Причем не только из-за стремления Москвы, но прежде всего естественным путем, из-за слабой приверженности к своему языку и значительно большей легкости перехода на русский, чем создания белорусскоязычной среды современного производства и городской жизни. Если прибавить к этому, что при советской власти белорусы жили сравнительно неплохо, что экономический прогресс Беларуси в послевоенный период был весьма значителен, что партизанское движение для белорусов стало едва ли не первой всенародной борьбой с поработителями, а белорусский национализм в годы войны скомпрометировал себя сотрудничеством с оккупантами, мы поймем, что национальных импульсов для борьбы с Центром в Беларуси было мало. Народный фронт не смог стать таким же массовым движением, как его аналоги в других республиках. Тем не менее общий распад коммунистической системы втянул упирающуюся "белорусскую Вандею" в процессы суверенизации и полупостроения-полуимитации демократии и рыночной экономики со всеми неизбежными компонентами этих процессов: расцветом коррупции, обогащением номенклатуры и немногих "новых белорусов" и обнищанием большинства народа. Чем дальше, тем больше народ чувствовал ностальгию по советским временам и связывал свои беды с "националистами" и "демократами", гербом "Погоня" и попытками возродить забытый им белорусский язык. Это и есть тот фон, на котором возникает "феномен Лукашенко" — явление, имеющее аналоги в других республиках, но в Беларуси приобретшее своеобразную окраску и гротескные формы.



Директор совхоза Лукашенко, ставший активным депутатом и председателем парламентской комиссии по борьбе с коррупцией, ни имел ни ясной политической линии (вначале он считался "демократом" и блокировался с немногочисленной народнофронтовской оппозицией, но затем стал единственным депутатом, проголосовавшим против ратификации Беловежских соглашений), ни какой-либо своей партии или движения, ни поддержки влиятельных сил, вообще ничего. Он имел лишь искренность и бесстрашие, проявлявшееся в его "судьбоносном" голосовании и обвинениях в коррупции всей верхушки, а также явную близость своих сумбурных воззрений и ценностей воззрениям и ценностям белорусского народа. Как и большинство белорусов, он был убежден, что все беды — от распада Союза, интеллигентов-националистов, нечестной номеклатуры, разного рода мафий и отчасти — Запада. И хотя его соперник на выборах В.Кебич был премьер-министром, хотя он поддерживался Россией и держал в своих руках местные администрации, фактически создав "Наш дом — Беларусь", во втором туре он получил жалкие 14%, а "деревенский выскочка" — 80% голосов. В Беларуси произошла популистская электоральная революция.

При крайней слабости партий, отсутствии четких идеологий и озлобленности народа такие революции характерны для постсоветского мира. Периодически то тут, то здесь возникают "харизматики", привлекающие народ бесстрашным бросанием своих перчаток в лицо начальства и щедро раздающие обещания, не имеющие за собой вроде бы ничего, кроме решительности, но побеждающие, как Давид, номенклатурных Голиафов. Элементы такого популистского протеста (с иными идеологическими добавками) были и в победе Ельцина, и в успехе Жириновского. Но только в белорусских условиях предельной расстерянности народа это явление достигло максимальных размеров. Нигде номенклатурная элитарная власть не была побеждена с такой легкостью "простым парнем из народа". И нигде эта власть не продемонстрировала с такой силой свою мощь, сведя "народную электоральную революцию" к чистой символике, к сотрясанию воздуха.

Победа Лукашенко ни к чему не ведет. Не только не выполняются щедро раздававшиеся обещания прекратить рост цен, но не происходит сколько-нибудь существенных подвижек в элите. Группу честолюбивых молодых интеллигентов, помогавших Лукашенко и думавших, что будут направлять этого "некультурного и наивного, но честного человека", он очень скоро прогнал. Он окружил себя все той же *старой номеклатурой*. Никаких громких процессов над коррупционерами и никаких "чисток". Экономическая политика — равнодействующая между требованиями МВФ и "социалистическими" импульсами президента, определяемая интересами медленно (медленнее, чем в России) обуржуазивающейся номенклатуры.

Естественно, что рейтинг Лукашенко начинает падать. Интеллигенция (в Беларуси значительно более оторванная от народа, чем в России) его просто ненавидит. Для нее он — символ унижения и ее, и белорусской нации, про язык которой он сказал, что на нем "нельзя выразить ничего великого", ибо "на свете есть только два великих языка — русский и английский". И каждый новый "лукашизм" — словесный перл президента, усиливает эту ненависть. (Последний — фраза, сказанная им заехавшему в Беларусь Ли Пэну: "Хотя Вы человек с Востока, но высочайшего, европейского уровня руководитель"). Лукашенко становится предметом бессильного интеллигентского издевательства. Его пик — публикация в газете СВАБОДА поэмы "Лука Мудищев — президент". Но если на интеллигенцию ему более или менее плевать, то без поддержки народа он все же обойтись не может.

Что делает в этой ситуации Лукашенко? Естественно, он борется с врагами — с обессиленным, пересидевшим свой срок парламентом и с газетами, которые он в основном приструнил. Он пытается создать "президентскую вертикаль" и развивает колоссальную активность, вплоть до объявления тем сочинений на вступительных экзаменах в вузы. Но нужно нечто большее. Человек, с немыслимой легкостью одержавший головокружительную победу и не знающий, что с ней делать, не имеющий никакой "мирной" и долговременной программы, может идти лишь от боя к бою и от победы к победе, как Наполеон. Ничего другого он просто не умеет и не может.

Блестящим ходом Лукашенко было проведение референдума по четырем вопросам — объявление русского языка вторым государственным, ликвидация принятой в 1991 г. "националистической" символики, одобрение политики президента, направленной на экономический союз с Россией, и предоставление президенту права распускать парламент, приуроченного к парламентским выборам. Вновь битва и головокружительная победа, но затем вновь возвращение к серым будням и новая утрата популярности.

Когда в твоей стране все битвы выиграны и все враги повергнуты, для победителя очень естественно перейти к экспансии вовне. В специфических условиях Беларуси эта идея может принять своеобразную форму: плана мирного завоевания Лукашенко России посредством мирного завоевания Россией Беларуси. Многие белорусские аналитики убеждены, что такой план есть.

Обсуждать шансы Лукашенко на претворение его в жизнь не стоит — их нет. Но сам факт дискуссии на эту тему в белорусской печати говорит о крайней неустойчивости и непредсказуемости политической жизни страны. И сам Лукашенко может смертельно обидеться на Россию (слишком страстная любовь часто переходит в ненависть). И еще более вероятно, что белорусский народ, разочаровавшись в нем, может качнуться в иную крайность. Непредсказуемость вообще характерна для постсоветского мира, где гуляют популистские волны. Но в Беларуси, где в народе крайне слабо ощущение ценности своей этнической уникальности и своей государственности, где слаб инстинкт государственного и национального самосохранения, она особенно велика.

**Дмитрий ФУРМАН,**
*"Общая газета"*
**10—16 августа 1995 г.**

